На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...

Якуб Колас

**№ 144 (496)**

Чацвер, 13 жніўня 1998 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 3000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля




**Отзовитесь!**

## Ничто не должно быть забыто

**Товарищи солдаты и сержанты. Товарищи прапорщики, офицеры и генералы! Я обращаюсь ко всем тем, кто 21 августа 1968 года был в составе вооруженных формирований, направленных правительством Советского Союза в Чехословакию, как тогда говорили, для защиты социализма.**

**Прошло 30 лет. Перекроена политическая карта мира. Изменилось наше представление о добре и зле. Выросло новое поколение с другими критериями нравственности. Им нужны воспоминания живых участников тех событий.**

**Просьба откликнуться и поделиться своими воспоминаниями, фотографиями и другими документами тех событий.**

**Контактный телефон 229-21-56.**

**В.ЩУКИН, капитан 2-го ранга .**

**Российская Федерация**

## 100-ю конференцию Межпарламентского союза откроет Борис Ельцин

Президент Борис Ельцин откроет юбилейную 100-ю конференцию Межпарламентского союза (МПС), которая 7—12 сентября пройдет в Кремле. Об этом сообщил в интервью "Интерфаксу" ответственный секретарь оргкомитета по подготовке конференции МПС Виктор Елчев.

По его словам, на торжественной церемонии открытия юбилейной конференции, которая начнется в 11.30 в Государственном Кремлевском дворце, выступят также председатель совета МПС Мишель Мартинес и генеральный секретарь МПС Андерс Джонсон, председатели палат Федерального Собрания РФ Егор Строев и Геннадий Селезнев, генеральный директор представительства ООН в Женеве Владимир Петровский.

Как сообщил ответственный секретарь оргкомитета, уже подали заявки на участие в работе юбилейной конференции делегации ста стран (всего в состав МПС входят 137 стран. —**"ИФ"**), в том числе 16 делегаций от международных организаций — ООН, ЮНЕСКО, ПАСЕ, ОБСЕ и другие.

Накануне открытия юбилейной конференции МПС, сообщил В.Елчев, в Кремле состоится встреча женщин-парламентариев, по завершении которой для ее участниц супруга президента Наина Ельцина устроит прием.

Около двух тысяч участников конференции (800 парламентариев плюс обслуживающий персонал) разместятся в 16 отелях Москвы. Ожидается, что на конференции будет аккредитовано около 600—800 российских и иностранных журналистов. Для проведения конференции, по словам ответственного секретаря ее оргкомитета, выделено 40,3 млн. рублей.

**Візіты**

## У верасні Мінск наведае Федэрыка Маёр

Генеральны дырэктар ЮНЕСКА Федэрыка Маёр наведае нашу краіну з візітам 6—8 верасня.

Як паведамілі БелТА ў Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА, візіт высокага госця ў Беларусь адбудзецца па запрашэнні кіраўніка нашай дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі.

Што датычыць праграмы знаходжання Федэрыка Маёра ў Мінску, то яна пакуль зацвярджаецца. Прадугледжваецца, што Генеральнага дырэктара ЮНЕСКА прыме прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Запланавана таксама сустрэча Федэрыка Маёра з міністрам замежных спраў рэспублікі Іванам Антановічам.

**БелТА.**

## В Москве считают: в Беларуси существует реальная угроза свободе слова

К президенту Беларуси Александру Лукашенко обратился с письмом руководитель Фонда защиты гласности Алексей Симонов. Напомним, что эта общественная организация защищает права СМИ и журналистов в России и СНГ. В письме на имя Лукашенко она выражает "глубокую озабоченность по поводу преследования независимой газеты "Наша ніва". Влиятельный московский Фонд защиты гласности обращает внимание на смехотворное обвинение в адрес газеты, которая якобы неправильно использовала нормы белорусского языка. В связи с этим московская организация разъясняет белорусскому президенту, что одни правила правописания существовали в Беларуси до 1933 года, после реформы языка появились другие, и что даже ученые белорусской Академии наук на своей конференции так и не пришли к единому мнению: какие же нормы языка использовать — дореформенные или послереформенные?

В связи с этим московские защитники гласности пишут: "Недоумение вызывает и само место проведения слушаний по этому делу — Высший хозяйственный суд, который, как известно, не является подразделением Академии наук и не может провести дискуссию о применении языковых норм, как не может определить и оценку действий газеты". Далее "Фонд защиты гласности рассматривает сложившуюся ситуацию как реальную угрозу принципам свободы слова, закрепленным как в законах и Конституции Республики Беларусь, так и в международных правовых документах, под которыми стоит подпись Беларуси".

Этот документ направлен также в информационный центр ОБСЕ, информационный центр Совета Европы, Американский комитет защиты журналистов, другие влиятельные организации и информационные компании.

**Жатва-98**

## Хлеб — основа жизни!



Десятый сезон работает в колхозе "1 Мая" Дятловского района на мощном "Доне" Александр Рогач. В этом сезоне он намолотил более полутысячи тонн зерна. А всего в хозяйстве уже убрано свыше двух третей площадей из 1210 гектаров зернового клина. Хотя погода не благоприятствует, здесь рассчитывают получить не менее 32 центнеров зерна с гектара. И это при том, что земли района — самые бедные в области (32 балла).

**На снимке:** *во время обеденного перерыва в поле.*

**Фото Романа КОБЯКА.**



В сложных погодных условиях проходит нынешняя жатва. Природным катаклизмам люди противопоставляют свою организованность, напряженный труд. На помощь взрослым приходят учащиеся сельских школ.

**На снимке:** *старшеклассники Сенницкой средней школы Минского района на зернотоке местного колхоза имени Гастелло.*

**Фото Аркадия НИКОЛАЕВА.**

**Незалежная экспертыза**

*Уладзімір КУЛАЖАНКА,*
*доктар эканамічных навук, прафесар*

## Павышэнне заработнай платы ці толькі частковая кампенсацыя страт ад інфляцыі?

Пад ціскам апошніх масавых акцый прафсаюзаў урад, які доўга не жадаў ісці насустрач патрабаванням рабочых і служачых наконт павышэння заработнай платы, нарэшце пайшоў на ўступкі. У друку аб'яўлена аб намеры ўрада павысіць мінімальную заработную плату з 1 кастрычніка 1998 года да 350 тысяч рублёў, а стаўку першага разраду — да 700 тысяч рублёў. Канчатковае рашэнне яшчэ не прынята, ідуць кансультацыі і ўзгадненні. Але пад пагрозай "гарачай восені" адкладваць гэты крок урад, бадай, не стане.

Заўважым: чарговае павышэнне заработнай платы ўпершыню за апошнія гады адбудзецца пасля працяглага дзевяцімесячнага яе замарожвання. Перад гэтым павышэнне заробкаў адбывалася звычайна праз 4—5 месяцаў. А на гэты раз быў намер змяніць заработную плату толькі праз год, 1 студзеня 1999 года. Імкненне не павышаць мінімальную зарплату падтрымлівалася эканамічнымі міністэрствамі і ведамствамі, бо гэтая акцыя звязвалася з далейшай эскалацыяй інфляцыі.

І ўсё ж... Магчымае павышэнне мінімальнай заработнай платы — гэта рост рэальных заробкаў ці толькі частковая кампенсацыя страт ад інфляцыі? На жаль, станоўча на гэтае пытанне адказаць нельга. Звяртае ўвагу тое, што статыстычныя органы ўвесь час даюць звесткі найперш аб даходах насельніцтва, куды залічваюцца не толькі фінансавыя даходы (зарплаты, пенсіі, стыпендыі, дапамогі), але і так званыя вопытныя сярэднестатыстычныя дадзеныя аб даходах чаўнакоў, дробных прадпрымальнікаў, садоўнікаў, агароднікаў, пчаляроў, будаўнікоў, зборшчыкаў грыбоў, ягад і г.д. Ці патрэбна ўлічваць гэтыя даходы? Безумоўна, трэба, бо яны ёсць. Але пытанне ў тым, як іх вызначыць і ці сапраўды яны рэалізаваныя, ці не атрымліваецца так, што папера ўсё вытрымае. А вось што датычыцца рэальнай заработнай платы, то яе станоўчыя значэнні вызначыць даволі цяжка ва ўмовах пастаяннай інфляцыі.

Мінімальная заработная плата павышалася і раней, у апошні раз 7 месяцаў назад. Але па сваім змесце яна насіла толькі кампенсацыйны характар, бо ў мінулым годзе цэны на спажывецкія тавары выраслі за год на 63 працэнты. Між іншым, мінімальная заработная плата ніколі не павышалася болей чым на 30—35 працэнтаў. Ёсць падставы сцвярджаць, што кампенсацыйны характар будзе мець і чарговае павышэнне заработнай платы. Справа ў тым, што пасля папярэдняга павышэння мінімальнай зарплаты, якое нават няпоўнасцю пакрывала страты насельніцтва ад інфляцыі, апошняя ў гэтым годзе не была пераадолена. Больш таго, для яе стымулявання былі створаны найлепшыя ўмовы. Гэта не толькі друкаванне "пустых" грошай, але і тое, што летась цэны на прамысловую прадукцыю выраслі на 91 працэнт. А гэта ж у сваёй масе цэны на прамежкавы прадукт (сыравіну, камплектуючыя, паліва, энергію), які якраз і вызначае выдаткі вытворчасці сёлета. Таму і атрымліваецца, што, выкарыстоўваючы простую арыфметыку, няцяжка падлічыць, да чаго звядзецца чарговае павышэнне мінімальнай заработнай платы і стаўкі першага разраду сёлета. Так, мінімальная заработная плата будзе павышана з 1 кастрычніка на 40 працэнтаў. Рост нібы значны. Але што ён азначае ў рэальным значэнні, калі за першае паўгоддзе ў выніку інфляцыі цэны на спажывецкія тавары падскочылі аж на 21 працэнт. Як бачым, палова павышэння мінімалкі ўжо "з'едзена". Мяркуючы па ўсім, у трэцім квартале цэны будуць расці (і ўжо растуць) не ніжэйшымі тэмпамі, чым у першым паўгоддзі.

У сацыяльна-эканамічным аддзеле Федэрацыі прафсаюзаў, вывучыўшы рост цэн у ліпені, прыйшлі да высновы: на канец ліпеня кошт набору прадуктаў харчавання з 25 відаў па нормах мінімальнага спажывецкага бюджэту склаў у рэспубліцы 1 мільён 724 тысячы рублёў. У параўнанні з дадзенымі на канец папярэдняга месяца рост склаў 11,4 працэнта, што ў 3 разы перавышае рост цэн на тавары народнага спажывання, які быў аб'яўлены афіцыйна. Прычым рост вартасці харчовага кошыка ў асобных абласцях быў проста пагражальны. У Гомелі і Гомельскай вобласці — на 21,5 працэнта, у Магілёве — на 22,7 працэнта. Пры тым самымі "дарагімі" гарадамі па вартасці харчовага кошыка з'яўляюцца Віцебск (1 мільён 871,6 тысячы рублёў), Мінск (1 мільён 802,9 тысячы рублёў) і Гомель (1 мільён 790,5 тысячы рублёў). Няцяжка ўявіць, што застанецца ад чакаемага павышэння мінімальнай заработнай платы, калі цэны на прадукты харчавання будуць расці ў жніўні і верасні такімі тэмпамі, якімі яны раслі ў ліпені.

Карэнныя змены адбываюцца на валютным рынку. Пад ціскам эканамічнага крызісу і прыняўшы пад увагу парады міжнародных фінансавых арганізацый, напрыклад, Сусветнага банку і Міжнароднага валютнага фонду, Нацыянальны банк і ўрад Рэспублікі Беларусь аб'явілі аб пераходзе да новага года да адзінага валютнага курсу рубля. Але як гэта зрабіць, калі напачатку жніўня афіцыйны валютны курс рубля складаў 41.400 рублёў за адзін долар, а рынычны — 77.000—75.000 рублёў і вышэй, а ў абменных пунктах куплі-продажу пераваліў за 60—62 тысячы рублёў. Зразумела, што імгненна да адзінага валютнага курсу, што само па сабе ёсць станоўчы факт у сэнсе рыначных пераўтварэнняў, можна прыйсці толькі на аснове далейшай дэвальвацыі беларускага рубля. Вынікам гэтага кроку банкаўскай сістэмы можа быць толькі рост цэн на спажывецкія і неспажывецкія тавары. І ў Нацыянальным банку гэта разумеюць. Яго кіраўнікі заяўляюць, што будзе "невялікі" рост цэн: плюс 5 працэнтаў да таго, які ёсць, і без маштабнай дэвальвацыі. Атрымліваецца, што восенню трэба чакаць інфляцыі, якая прывядзе да штомесячнага росту цэн недзе на 8 працэнтаў.

Не трэба забываць, што павышэнне мінімальнай заработнай платы і стаўкі першага разраду фармальна мае непасрэдныя адносіны толькі да бюджэтнай сферы. Па-за гэтай сферай заработная плата, зразумела, намінальна расла ўвесь час. Напрыклад, Міністэрства статыстыкі і аналізу паведаміла, што сярэдняя налічаная заработная плата рабочых і служачых у чэрвені склала 4 мільёны 430,5 тысячы рублёў. Рост у параўнанні з траўнем — болей 8 працэнтаў. Аднак гэта не азначае, што з павышэннем мінімалкі адбудзецца рух да выраўнівання заработнай платы і толькі. Зусім не. Як і ў папярэднія разы, услед за павышэннем заработнай платы бюджэтнікам у такой жа меры будзе павышана і заработная плата работнікаў матэрыяльнай сферы. Тым самым ствараецца эканамічная база развіцця інфляцыі. Так што кампенсацыйны характар павышэння заработнай платы звернуты не толькі ў мінулае, але і ў будучае.

І яшчэ адзін момант, які прадвяшчае рост цэн. Маецца на ўвазе цяперашні сёлетні ўраджай зерневых і бульбы. Як ацэньваюць расійскія эксперты, збор зерня ў Расіі складзе ў гэтым годзе 70 мільёнаў тон і будзе меней, чым год назад, на 18 мільёнаў тон. Чакаецца, што Украіна намалоціць пшаніцы на 2—3 мільёны тон менш, чым летась. Па розных прычынах не будзе пераўзыдзены мінулагодні намалот зерня і ў Беларусі. Хутчэй — наадварот. Можна чакаць павышэння цэн на зерне, хлеб, а значыць, і на астатнія віды харчавання. Тым болей што ў рэспубліцы вельмі дрэнны ўраджай бульбы. У некаторых гаспадарках наўрад ці будзе вернута насенне. Ужо сёння цэны на бульбу трымаюцца на ўзроўні 10—15 тысяч рублёў за кілаграм. А што будзе зімой ці восенню?!

Прадстаячае павышэнне мінімальнай заработнай платы ніяк не вырашае даўно пастаўленую прафсаюзамі праблему вызначэння такога памеру мінімальнай заработнай платы, які б быў роўны мінімальнаму пражытачнаму мінімуму. Разам з тым патрабаванне прафсаюзаў аб павышэнні заработнай платы ў 1998—1999 гадах на прадпрыемствах прамысловасці да 12—15 мільёнаў рублёў у месяц (200—250 долараў) з'яўляецца сёння нерэальным па розных прычынах. Па-першае, 31 працэнт валавога ўнутранага прадукта ідзе на дзяржаўнае спажыванне і спажыванне непрацуючых, па-другое, няма рэальнага росту вытворчасці, калі расце аб'ём нерэалізаванай прадукцыі з аднаго боку, а з другога — запазычанасць па заработнай плаце. Па-трэцяе, рэспубліка пакутуе ад фіктыўнай занятасці. Пад адміністрацыйным ціскам прадпрыемствы і арганізацыі ўтрымліваюць сотні тысяч непатрэбных людзей. А калі да гэтага дадаць дзесяткі тысяч людзей, умоўна занятых на міліцэйскай службе, у войску ці ў дзяржаўным апараце, то можна рэальна ацаніць шкоду краіне і працуючым у матэрыяльнай сферы ад памераў фіктыўнай занятасці ў краіне. Калі ж зняць вышэй азначаныя перашкоды, то заработную плату сапраўды ўжо сёння можна ўзняць да 200—250 долараў у месяц. Сапраўды, а чым горшыя беларусы за літоўцаў, латышоў ці эстонцаў, якія ўжо сёння маюць такую заработную плату.

Выснова такая: з якога боку ні падысці да ацэнкі павышэння мінімальнай заработнай платы, вынік адзін — яна можа насіць толькі кампенсацыйны характар. Значыць, жыць лепш мы не станем ні ў верасні, ні ў снежні. А калі? Тады, калі за рэформы возьмуцца сапраўды граматныя людзі, калі ўлады не будуць хлусіць людзям, а будуць гаварыць праўду, калі нават яна будзе горкай. Лепш перажыць цяжкасці пэўны час, чым гараваць усё жыццё.

## Міжнародная Хельсінкская федэрацыя і Беларускі Хельсінкскі камітэт просяць І.Антановіча выкарыстаць свой уплыў для паляпшэння сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі

Міжнародная Хельсінкская федэрацыя (МХФ) і Беларускі Хельсінкскі камітэт (БХК) звярнуліся 11 жніўня да міністра замежных спраў Беларусі Івана Антановіча з адкрытым лістом, у якім просяць яго выкарыстаць свой уплыў для паляпшэння становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі.

Зварот падпісалі выканаўчы дырэктар МХФ Аарон Роўдс і старшыня БХК Таццяна Працька. Аб гэтым спадар Роўдс паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Мінску 11 жніўня. У лісце прыведзены пералік праблем, якія выклікаюць заклапочанасць у праваабарончых арганізацый. Так, папярэджанне, вынесенае Дзяржкамдрукам штотыднёвіку "Наша ніва", яны разглядаюць як незаконнае і таму прапануюць міністру звярнуцца ў гэты камітэт "з мэтай адмены вынесенага папярэджання". Іх заклапочанасць выклікае і "адмова кампетэнтных органаў у правядзенні следства" па скаргах на неаднаразовыя выпадкі насілля над журналістамі; інфармацыя аб праследаваннях студэнтаў ВНУ па палітычных матывах, што парушае "прынцып акадэмічнай свабоды"; празмерна высокія штрафы, якія накладаюцца на ўдзельнікаў масавых грамадзянскіх акцый, што перашкаджае грамадзянам выказваць свае погляды шляхам мірных дэманстрацый; умовы і тэрміны ўтрымання ў СІЗА, што дае падставу гаварыць аб парушэнні прынцыпу прэзумпцыі невінаватасці; адмена льгот для ахвяр савецкага рэжыму; правілы і практыка ліцэнзавання адвакатаў, якія пазбаўляюць падабаронных права на незалежную, кампетэнтную і прафесійную абарону ў судзе.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

## У канцы верасня ў Нясвіжы пройдзе рэспубліканскі фестываль-кірмаш "Дажынкі-98"

У канцы верасня ў Нясвіжы пройдзе рэспубліканскі фестываль-кірмаш "Дажынкі-98". Распараджэннем прэзідэнта ўжо створаны аргкамітэт па яго правядзенні, у які ўвайшлі віцэ-прэм'ер Уладзімір Гаркун, міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Іван Шакола, прадстаўнікі іншых рэспубліканскіх і мясцовых органаў кіравання.

Як і летась, 12 лепшых камбайнёраў рэспублікі будуць узнагароджаны легкавымі аўтамабілямі, а ўладальнікі другіх і трэціх месцаў атрымаюць адпаведна халадзільнікі і тэлевізары. Інфармацыйную падтрымку фестывалю забяспечаць Нацыянальная тэлерадыёкампанія Беларусі і беларускае прадстаўніцтва міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі "Мир".

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Ужо на гэтым тыдні беларускія ваеннаслужачыя адправяцца на палігон "Ашулук" у Астраханскай вобласці Расіі для ўдзелу ў міжнародных вучэннях "Баявая садружнасць-98"

Як стала вядома БелаПАН, у канцы гэтага тыдня два эшалоны з тэхнікай і асабістым саставам падраздзяленняў зенітна-ракетных і радыётэхнічнай часцей беларускіх войскаў супрацьпаветранай абароны адправяцца на палігон "Ашулук" у Астраханскай вобласці Расіі, дзе ў канцы жніўня — пачатку верасня пройдуць міжнародныя вучэнні "Баявая садружнасць-98". Плануецца, што ў іх будуць удзельнічаць каля 800 ваеннаслужачых Расіі, Беларусі, Казахстана і Кыргызстана.

Ужо вядома, што Узброеныя Сілы нашай рэспублікі будуць прадстаўлены падраздзяленнямі зенітна-ракетных і радыётэхнічных войскаў, Расіі — аналагічнымі падраздзяленнямі і авіяцыяй, Казахстана — авіяцыяй. З якімі сіламі і сродкамі будзе ўдзельнічаць у вучэннях Кыргызстан, пакуль да канца не ясна: заяўка на ўдзел у "Баявой садружнасці-98" была пададзена нядаўна. Паводле паведамленняў расійскіх сродкаў масавай інфармацыі, на мінулым тыдні ход падрыхтоўкі да вучэнняў на палігоне "Ашулук" праверыла група генералаў і афіцэраў галоўнага штаба Ваенна-паветраных сіл Расіі на чале з намеснікам галоўнакамандуючага ВПС генерал-лейтэнантам авіяцыі Уладзімірам Міхайлавым.

Беларускія ваеннаслужачыя ўжо ў трэці раз за тры гады наведаюць расійскі палігон. Ажыццяўленне марша ў Астраханскую вобласць, баявыя стрэльбы і вяртанне ў месцы пастаяннай дыслакацыі стануць для іх этапамі комплекснага вучэння, праводзімага ў войсках СПА рэспублікі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

**Постфактум**

## Поддержит ли белорусский президент минчан, большинство которых выступают за независимость?

На Беларуси началась подготовка общественного мнения к необходимости проведения досрочных парламентских выборов. Свидетельством тому являются результаты проведенного в столице официального социологического исследования, доведенные до народа в субботнем выпуске "Панарамы".

Оказывается, рейтинг нынешних органов власти — Палаты представителей, Конституционного суда и правительства — резко упал. За исключением, конечно, президента. Его рейтинг поднялся на целый пункт. Что означает, во-первых, одобрение респондентами деятельности главы государства, отменившего все зарубежные визиты и лично возглавившего борьбу за урожай, а во-вторых — недееспособность остальных властных структур.

По всей видимости, в государственных средствах массовой информации ожидается откат и в вопросах единения с Россией, потому как, согласно этим же социологическим исследованиям, большинство опрошенных высказалось лишь за экономический, а не политический союз.

Белорусы, оказывается, выступают за независимость, а воля народа для первого президента нашей страны — священна!

**Никита ПИГУЛЬ.**

## Начныя аўтобусы і трамваі — канкурэнты таксі

У беларускай сталіцы яшчэ адным манапалістам стала менш. Пачынаючы з 10 жніўня, канкурэнтамі таксі па перавозцы пасажыраў у начны час сутак будуць аўтобусы і нават трамваі.

Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў вытворчым упраўленні транспарту і сувязі Мінскага гарвыканкама, на першым этапе арганізуюцца пяць аўтобусных і два трамвайных камерцыйных маршруты. Штодзень з 1.00 ночы да 5.30 раніцы яны будуць звязваць цэнтр Мінска і некаторыя яго "спальныя" раёны. Кошт праезду на наземных відах камунальнага транспарту — 20 тысяч рублёў за адну паездку ў трамваі і 30 тысяч — за білет у аўтобусе.

**Аксана АСПІШЧАВА.**

## Грошы засталіся ў сейфе

Ледзь не паўтарылася злачынства паўтарагадовай даўнасці ў Гродне, калі з філіяла "Пріорбанка" бандыты выкралі звыш мільярда рублёў. На гэты раз аб'ектам нападу, учыненага позна вечарам у мінулую нядзелю, стаў філіял "Беларусбанка", размешчаны па вуліцы Каліноўскага. Двое невядомых у масках схаваліся пад лесвіцай і напалі на супрацоўніка міліцыі з аддзела аховы, які вяртаўся на свой пост пасля таго, як праводзіў да выхаду касіраў. Збіўшы міліцыянера драўлянай дубінкай, зламыснікі змаглі адкрыць сейф. Якраз у гэты час да пад'езда на аўтамашыне прыбылі іншыя супрацоўнікі аддзела аховы разам з прадстаўніком ювелірнай майстэрні, што знаходзіцца па суседству з філіялам банка і мае з ім агульны ўваход. Пачуўшы шум, злачынцы выскачылі з акна другога паверха і зніклі, не крануўшы грошы ў сейфе. Як стала вядома БелТА з кампетэнтных крыніц, там было 2,5 мільярда рублёў, 4 тысячы амерыканскіх долараў, а таксама іншая валюта і матэрыяльныя каштоўнасці.

Па гэтым факце заведзена крымінальная справа, пачалося расследаванне. Стан міліцыянера, якому злачынцы нанеслі чэрапна-мазгавую траўму, апасенняў не выклікае.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ.**

## Па такім бы "Кейсе" ды ў кожны калгас!

Удзельнікам эксперыменту, які праводзіць цяпер на Брэстчыне германская фірма "ЕўраАгра", стаў і калгас "Пагранічнік" Брэсцкага раёна, які з'яўляецца рэзідэнтам свабоднай эканамічнай зоны "Брэст".

Вясной нямецкія партнёры паставілі ў гаспадарку для 100 гектараў пашы насенне піваварнага ячменю сорту "марэзі". А з наступленнем жніва, прадаставілі і свой збожжаўборачны камбайн "Кейс-527". У параўнанні з нашымі старэнькімі "Нівамі" і "Донамі" агрэгат гэты — проста казка. Ён аснашчаны магутным кандыцыянерам, камп'ютэрам, магнітолай, халадзільнікам, мае вялікую прадукцыйнасць пры высокай якасці ўборкі нават на нашых палеглых палях. Нават у цяперашніх складаных умовах надвор'я за змену на гэтым камбайне намалочваюць не менш як 60 тон збожжа. Дарэчы, і ўраджайнасць ячменю нямецкага сорту ў гэтым калгасе значна вышэйшая за ўсе нашы айчынныя і дасягнула амаль 40 цэнтнераў на круг.

Жніво ў гаспадарцы практычна завершана, і новы камбайн адправіўся ўжо на дапамогу ў Маларыцкі раён. Плануецца, што днямі яго рулявыя паедуць працягваць уборку ў Магілёўскую вобласць.

Як стала вядома карэспандэнту БелТА, такі эксперымент нямецкая фірма праводзіць сёлета яшчэ ў дзвюх гаспадарках вобласці — у Пінскім і Драгічынскім раёнах. Такое супрацоўніцтва ажыццяўляецца на ўзаемавыгаднай аснове і разлічана на пяць гадоў.

**Іван КУКСА, БелТА.**

Брэст.

## Будні польскай мытні

Польскія мытнікі сумесна з паліцэйскімі, пажарнымі і фінінспектарамі пачалі ліквідацыю нелегальных аўтабазараў, размешчаных побач з беларуска-польскай граніцай. Паводле паведамлення мясцовага друку, толькі ў час першай аперацыі каля пагранпераходу Цярэспалі была знойдзена 141 выкрадзеная машына.

**Іван КУКСА, БелТА.**

